СЯРГЕЙ ХМАРА

# ЖУРАЎЛІНЫМ ШЛЯХАМ

ВЕРШЫ






ВІЛЬНЯ 1939

## МЫ

Нeяк рвуцца ўсё словы,
верш гамезьлівы штось, —
бо ў гароце вясковай
атрымалі мы хрост.

Жадных правіл, асноваў! —
гэта чорт знае што!
Лапцем лезе лазовым,
брудзіць нам хараство!

Мовіць пэўна трэ' шчыра:
між нарцызаў — асот!
Так! Між пэрлаў, настыраў,
крыві капліны... пот...

І... праз краты, праз дроты,
заскарузлай рукой,
на Парнасе ілоты
узьнялі непакой.

Што-ж — да зьвягі прывыклі!
Не саб'юць! Сталь ня шкло.
Мы Сябрыны Вялікай
Маладая Ўскалось.

І хоць рваныя словы,
кантаватасьці скрозь, —
час, стагодзьдзі што ломіць,
ў нашы вершы урос.

Калі жылы ўсе рвуцца,
сэрцы рвуцца ў кускі —
верш наш ўзрывамі гучны,
віру бурнага ўскіп.

1939 г.

Жмені дзён буйных калосьсяў
люты час ў вір кідаў сьцяўшы.
Kpoў'ю неба сплыла просінь,
кроў'ю падарозе паўшых.

Люты час дзён сьцятых жмені
віхром кідаў — гончай зграі.
Жабравалі на каленях,
ганьбе гімн сваей пяялі.

Йшлі другія, горда, стала,
пад скрып перакладзін... сталі...
Грудзі ранячы аб скалы
сонца, сонца здабывалі.

1939 г.

## ЗЕМЛЯКОПЫ

Капаем, раўнуем, праводзім дарогу, —
пот выцерці часу ня маем.
Праз горы, даліны, балоты, адлогі
капаем,
ад рана да ночы капаем.

Пад звоны, пад сьпевы жалезных рыдлёвак
аб будучым думы складаем:
як звонам матораў надыйдуць дні новы...
Капаем,
ад рана да ночы капаем.

Будуем дарогу насупіўшы бровы
і полымя сонца чакаем.
Зазвоняць рыдлёўкі тады песьняй новай...
Капаем,
ад рана да ночы капаем.

1936 г.

## ПАЛЕСЬСЕ

Балаты, хмызьнякі, вышары.
Панавісьлі над імі туманы.
Заклякочаць парой гайстары,
ды закрумкаюць жоравы з рана.

Заклякочаць парой гайстары
у сівым, у балотным тумане.
Белай стужкай зазвоняць ў гары
лятучы гусі з ночнага стану.

Трысьціне штось шапоча бадыль
і булькочаць крыніцаў аконцы,
ды у смужных пратоках вады
прыглядаецца, мыецца сонца.

1935 г.

## НА ПРЫПЯЦІ

Гучна плюскоча Прыпяць старая,
шэпча пад ветрам чарот.
Дуб пад вятрылам ваду рассякае,
бег свой мяняе у лёт.

Струнамі вецер ў пастронках сьпявае
і залапоча вятрун.
Гэй, запраўляч! — ўжо віхор надбягае!
Моцна трымай-жа кірун.

І захадзіла, і закіпела,
і забухцела кругом.
Цяжкае будзе сягоньня нам дзела; —
ды не баімся яго!

1935 г.

## ЗЯЛЁНАЯ ПРЫПЯЦЬ

Між мора чароту, між хваль трысьціны,
у бухтах ўздымаючы кіпель,
паўзе адбіваючы сонца агні,
ой, Прыпяць,
зялёная Прыпяць!

Прыселі на ўзгорку грыбамі у рад
рыбацкае вёскі хаціны.
Тужліва, плакуча старая вярба
свае апусьціла галіны.

Шмат рыбы ў бяздоньнях, заводах ракі;
па хвалях маторніцы з рыкам;
і з голаду пухнуць над ёй рыбакі;
ой, Прыпяць,
зялёная Прыпяць!

Як чорну атласну радзюгу начы
расінамі зоры асыпяць, —
ў чароты на чайкі ідзе гурт мужчын,
ой, Прыпяць,
зялёная Прыпяць!

А ноччу старыя па хатах ня сьпяць,
і горка ад сьлёзаў накіпу.
І думае чорную думачку маць, —
ой, Прыпяць,
зялёная Прыпяць.

1936 г.

## БУРА

Будзе бура начой! Цемра, гразь непралазная;
духата, ап'яняючы чад.
Зашапталі дубы нешта важнае, важкае,
прытаіліся купіны хат.

Навалілася ноч цёмнахмарая з захаду,
тнуць нажамі маланкі прастор.
З пяруном лес загуў, застагнаў увесь
ахатам]
і патухлі агоньчыкі зор.

1937 г.

## КАЛЫХАЛА ЗЫБКУ МАЦІ

Калыхала зыбку маці,
калыхала.
— Ой, бяды ня будзеш знаці, —
мне пяяла.

— Будзеш сонцу усьмяхацца
залатому,
сэрца цешыць, любавацца
грошаў звонам.

Будзеш ты вялікім панам
над панамі
у палацы жыць цагляным
са слугамі.

Ой, пяяла, ой, гадала,
ня мылілась —
у палацах жыву стала
з слугаў сілай.

Мне і дзьверы адчыняюць,
есьці носяць;
абмываюць, адзяваюць,
ў спацыр просяць.

Ды аднага не ўгадала
мая маці:
няма сонка залатога
усьміхацісь.

І ня цешу сэрца звонам
кучы грошаў, —
звоняць іншым ў дзень і ў ночы —
сон палошаць.

1935 г.

## ГУСКІ

Гускі, мае гусачкі,
скіньце мне па пёрачку!
Паляцела-б з вамі я
ў родную староначку,

дзе жыцьцё шчасьлівае,
дзе жыцьцё вясёлае,
дзе пшанічнай грываю
шуміць шчасьце новае.

Гускі, мае гусачкі,
скіньце мне па пёрачку
лятучы над нівамі
ў родную староначку

1936 г.

## РАССТАНЬНЕ

Я мушу ехаць...
ну — бывай!
І нешта сьціснула за горла;
зацьвіў сумоты малачай,
рванулась сэрца непакорна.

Расстаньне...
І ў тумане шлях,
ў тумане шлях наш безпрасьветны.
Заплакала расой зямля.
Адзін...
бяз ласкі, бяз прыветнай.

Сэрца чароўна пяе самагудамі.
Ой, ап'янеў-жа вачыма я восеньню.
З месяцам лаюсь: сабака руды ты!
Вылез нашто, як цябе мы ня просімо?...

Нізка вярбіны над намі схіліліся.
Не!
Не напіцца мне воч тваіх просіньню.
З плеч быццам дзесяць гадоў адвалілася...
Ой, ап'янеў!
па вясноваму
восеньню.

1938 г.

## У ГОРАДЗЕ

Стужкай шырокай блішчаць тратуары
ў пытлі-імжыцы дажджу.
Мокрыя вецер калыша ліхтарні;
лезе трамваю скульсь жук.

Скачаць па куцінах цені таёмныя.
У сэрца ўпіваецца жаль.
Вырвацца-б недзе за дні нашы цёмныя
ў сіня-блакітную даль!

1938 г.

## НАМ НЕ ЧАКАЦЬ ВЯСНЫ

Нам не чакаць вясны
з замкнутымі вачамі,
ня сьніць аб ёй начамі, —
бо сны і будуць сны.

Нам не чакаць вясны, —
галодным і разутым
і з песьнямі пакуты —
ледзь астануцца сны.

Мы выкуць мусім дні
сэрц нашых жар-вуглямі —
ня мроямі! — рукамі!
Дні нашае вясны.

1937 г.

Кажуць: гора заела,
здаўся ў біцьве з бядой,
і смаўжом мяккацелым
ты ў жыцьця пад ступнёй.

І ці быць гэта можа?
Ты косьць з косьці, з крыві
з вёскі нашай, — бязможна
ў чорны зсунуўся вір?

А ці-ж зможа якая
нас, байцоў, злыбяда?
Нас прадвесьнікаў мая
у зімовых лядах.

Трэба? — голавы зложым; —
трэба? — целам, касьцьмі!
Шлях бяздоньням праложым.
Нам палаць, а ня цьміць!

Хіба жылы разьела
злая ворага едзь?

Сэрца вырваць збалелае
запаліць і гарэць!

## ЗАЗВАНІЛІ

Зазванілі яму, зазванілі,
як на вечны пакой вынасілі...
Не званы зазванілі ў касьцеле —
але гора дзяцей зсірацелых,
гора жонкі, бацькоў над труною,
зазваніла сялянскай сьлязою...
Не малілісь ксяндзы у касьцеле,
як ён клаўся ў магільнай пасьцелі; —
толькі хвоі старыя шумелі...
— — — — — — — — — — — — —
Яшчэ ўчора жывы ўсьміхаўся,
з горам, крыўдай народнай змагаўся, —
а сяньня абліты крывёю
лёг пад цяжкай магільнай зямлёю...
— — — — — — — — — — — — —
Зазванілі яму, зазванілі,
як на вечны пакой вынасілі.
Не званы зазванілі ў касьцеле —
але сьлёзы з вачэй зсірацелых.
— — — — — — — — — — — — —

1936 г.

## ЗАЦЬВІЛІ

Зацьвілі за дратамі сады,
вішні ў вэлюм вясельны адзелісь;
чарапахай паўзе гуж гадзін
у маей бэтановай пасьцелі.

Нібы нечыя мілыя вочы
неба ў люфціку сіняе, сіняе.
І хацелася-б
сіняй тэй плыні
так напіцца, напіцца да схочу.

За вакном — цэлы дзень сьвіргуном
звар'яцелы сьвісток верасклівы,
і ад бегу зямлі чуваць стогн —
крэсіць іскры у сэрцы агнівам.

А ў начы... сны,
манлівыя сны...
Гай зялёны чаруе, урочыць...
І дзявочыя сінія вочы...
— — — — — — — — — — — — — —
Не праснуцца-б...
да іншай вясны!..

Зацьвілі,
замаілі сады,
вішні ў вэлюм вясельны адзелісь;
чарапахай паўзе гуж гадзін
у маей
бэтановай
пасьцелі.

1937 г.

## У ПАХОДЗЕ

Засаколіў вецер
вышэй стрэх і хатаў,
зашумела вецьце
пра долю аратых.
Дарогай шырокай
пад шопат лазовы,
ідзе цяжкім крокам
паход наш лапцёвы.
Зашумела вецьце...
хмары чоўнам б'юцца.
Лозы, быццам дзеці,
за палу бяруцца.
Ой, ты доля, доля,
палыновы цьвеце!
Ці-ж то нам ніколі
сонца не засьвеціць?!

1936 г.

## КАПАЕМ

Капаем. Няўпынна зьвініць
аб камень стальная лапата
і зьзяюць у вочах зьнямогі агні;
далоні — крывавая лата.

Ці ў дождж, ці ў пагоду — ўсё рухам адным
пасьпешна мы вернем дзярніну.
Нам сонца з сарочак выпарвае дым,
шрамоў плечы поўныя сініх.

Капаем бяз слова, бяз гуку ў цішы.
Лёг цень на галодным абліччы.
Рве крык прыганятага: — Гэй, пасьпяшы, —
бо зноў вашы робры палічым!

Капаем, капаем праз цэлыя дні, —
магілу капаем пракляцьцю!
Прыедзе вясна к нам на сонцы-кані!..
Капайце-ж лапаты, капайце!

1938 г.

## КРАЎЧЫХА

Дні мае цягнуцца шэрымі ніткамі
з шумам машыны. І крыюць
вочы агонь пад сьцюдзёнай наміткаю.
Шыю,
            і шыю,
                        і шыю.

Прыйдзе вясна, сыпне красак пялёсткамі.
Толькі грудзям ці паможа...
Вусны засьмяглыя — белыя хусткі,
уквецяць крывавыя рожы.

Дні мае цягнуцца шэрымі ніткамі
з стукам кравецкай машыны;
толькі начамі сонца мне сьніцца...
Шыю,
            і шыю,
                        і шыю

## ЧУЕШ?

Чуеш? Ці чуеш?! Ідзе пераклічка:
Дзісна і Горадня, Бельск...
Слонім, Палесьсе. Хто іх паліча? —
голас вясковых аселіц.

Плюнулі волавам
ў вочы дзён шалых,
стальлю расплаўленых слоў.
Часу ліхому у грудзі — кінжалам!..
Трухлядзь паслаўшы на злом.

Чуеш, як гойкаюць?!
Йдзе пераклічка.
Звоняць ў адказ жураўлі...
Сонца свабоднае нівай пшанічнай
нам сустракаць!
А ня вы...
вёсак радзімых злыя прадажнікі,
стрэх саламяных закал.
Сонца сустрэнеце — іншае, важкае.
Вам скура свая — ідэал.

З Прыпяці шэрай,
з балотаў,
шувараў,
з пушчаў, пружанскіх лясоў;
з Нарачы тоняў, сланімскіх імшараў,
з бельскіх, браслаўскіх пяскоў.

Чуеш, як гойкаюць? То-ж пераклічка! —
Моцны мы! Цьвёрды! Жывы!
Цяглiцы пружацца, сэрцы крынічаць...
Мы-ж — авангард веснавы!

Ладункам слоў,
тарпэдамі паэмаў і баляд,
ўзарвем мы нашы дні.
Не час вішняк цьвітучы апяваць, як стрэхі
хат]
ў вагні.

Рве жылы кроў
агнём — радкі жгуць...
ляваю...
папер.
І сэрца кнотам тліць...
Глухія,
мёртвыя
пачуюць наш прызыўны сьпеў
стальны.
Сьляпыя на'т
пабачуць даль блакітных йдучых дзён...
...Сьвет б'ецца на нажы...
Крычым.
Б'ём на спалох!
ў эпохаў звон
гэй ў гон!
гэй ў гон!
нам жыць!!!

## НАД БАЛОТАМ

Над балотам
косы
звоняць,
шэпча штось трава.
Плача кнігаўка
і стогне,
а з нябёсаў — вар.

Пот — цюрком
ліецца,
градам...
Між пракосаў — пан.
Звоняць косы сталі ладам:
Дань...
дань...
дань!...

Цэлы дзень
ў паветры сонным
кос гарыць пажар.
Плача кнігаўка
і звоне
травяны абшар.

1938 г.

Неба начой было яснае... яснае!..
Белае... белае! — як малако!..
Недзе жалезам дзьверы заляскалі,
сэрца зьбяжалася ў ком.

Шыбы у вокнах раптоўна заойкалі,
глуха дзьвярыны паліўся ў ноч стогн. .
Чуеш! — бяз плачу! — трэба быць стойкаю!..
ў сэрца хоць ўбіты асьцён.

Неба начой было яснае, яснае!
Белае, белае, — як малако!..
Недзе жалеза затворамі ляснула.
Сумна зайржаў ў хляве конь.

1937 г.



## НЕ ВЯРНУЛІСЬ НАЗАД

А ўсё-ж не! Не вярнуліісь назад!
Хоць спаткалі нас злосныя сыкі.
Горда вуліц каменьне таптала лаза,
бо за намі ён, Волат Вялікі!

Не вярнуліісь назад! Свой рабінавы хмель
рассыпаючы між камяніцаў.
І буяны наш подых сялянскіх асель
рве ляды зьледзянелай сталіцы.

Не вярнуліісь назад, бо мы шум веснавы!
А вясну хто-ж здалее стрымаці!?
Чуеш! Небам ідуць жураўлі,
а зямлёй
гучны марш граюць лапці.

1939 г.

## ЗЬМЕСТ